

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993
ЖНІВЕНЬ
2
Панядзелак
№ 142 (577)
Цана
5 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

☐ ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

### ГАСЦЯМ РАДЫ, АЛЕ...

Аляксандр МАЛЧАНАЎ.

Як стала вядома ва ўпраўленні па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва пры Мінгарвыканкаме, за перыяд са студзеня па чэрвень 1993 года ў Мінск прыбылі 292 перасяленцы. З іх 114 чалавек з зоны ваеннага канфлікту ў Абхазіі, 42 — з Грузіі, 57 — з Таджыкістана, 28 — з Азербайджана, 22 — з Арменіі, 14 — з Чачні. Сярод бежанцаў пераважна прадстаўнікі славянскіх народаў: рускія — 75, беларусы — 74, украінцы — 25, а таксама грузіны — 43, армяне — 36, абхазцы — 14. У ліку прыбыўшых працаздольнага насельніцтва 203 чалавекі, дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў — 75, пенсіянераў — 9 і інвалідаў — 5.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН намеснік начальніка ўпраўлення Аляксей Багамольскі паведаміў, што Беларусь прапанавала падпісаць міжурадавае пагадненне аб узаемаразліках па пытаннях перасялення на ўзроўні СНД. На жаль, гэту ініцыятыву падтрымалі толькі Расія і Казахстан. У сувязі з гэтым на сённяшні дзень няма заканадаўчай базы, што выклікае шэраг складанасцей. Так, жыллё прадастаўляецца толькі ў выпадку працаўладкавання самімі прадпрыемствамі, а таксама ў выглядзе выключэння асобам, якія маюць сваякоў. Матэрыяльную дапамогу, пры наяўнасці свабодных фінансавых сродкаў, аказваюць раённыя выканкамы.

Па словах Багамольскага, шансы працаўладкавацца і атрымаць матэрыяльную дапамогу ў Мінску мінімальныя. Тым больш, што ў рэспубліцы існуе шэраг першачарговых праблем — аказанне сацыяльнай дапамогі перасяленцам з раёнаў Чарнобыльскай АЭС, вайскоўцам, звольненым у запас.

Таму людзям, якія вымушана пакідаюць месцы сталага жыхарства, неабходна арыентавацца на абласныя цэнтры, гарадскія пасёлкі, дзе патрабуюцца спецыялісты.

Аляксей Ягоравіч выказаў таксама занепакоенасць выпадкамі, якія маюць месца, калі пад выглядам бежанцаў фармуюцца групоўкі, якія ўскладняюць крымінагенную абстаноўку сталіцы рэспублікі.

☐ ПАЛІВА

### У ГРАМАДСКІМ ТРАНСПАРЦЕ БУДЗЕ ЯШЧЭ ЦЯСНЕЙ

Уладальнікам прыватных аўтамабіляў, відаць, давядзецца некаторы час пакарыстацца грамадскім транспартам.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛІНФАРМа з кампетэнтных крыніц, у бліжэйшы час многія аўтазапраўчныя станцыі могуць спыніць работу. І бензін, які і без таго сёння адзін з самых дэфіцытных тавараў, мяркуючы па ўсім, змогуць купіць толькі таўстасумы.

Усе ліміты ці прынамсі большая іх частка, што выдзяляецца дзяржавай для прыватнікаў, будзе адпраўлена ў вёску, дзе вось-вось пачнецца ўборачная пара. Акрамя таго, дзяржаўныя органы выказалі жаданне цесна супрацоўнічаць з камерцыйнымі структурамі, якія могуць падтрымаць вяскоўцаў у адказны момант гаручым. Так што «бітва за ўраджай» без падтрымкі прадпрымальнікаў не адбудзецца.

Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ,
БЕЛІНФАРМ.

☐ КРАТКО

### «ЛЮКСЫ» НИКОГДА НЕ ПУСТУЮТ

Как сообщила корреспонденту РИДа заведующая одной из самых «престижных» бань столицы Раиса Ивановна Тужакова, из-за высоких цен на билеты баня № 7 заполняется примерно на 70 процентов.

Душ здесь обходится в 32 рубля, общее отделение — немногим больше. Перворазрядный номер в этой бане стоит 828 рублей. И что интересно: хотя люкс с бассейном стоит 1500 рублей, люксы никогда не пустуют.

Анатолий РОМАНОВИЧ.

☐ НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

### БЕЛАРУСКІ ГАБЕЛЕН У БЕЛЬГІІ

Маргарыта СТАРЫХ, «ДВ».

Другая міжнародная Трыенале, якую праводзіць франка-бельгійскае Таварыства габеленаў і мастацкіх тканін, прысвечана краінам былога сацлагера. Выстава «Іншая Еўропа» знаходзіцца пад асобым патранажам яе Высокасці каралевы Бельгіі.

Горад Турней, што знаходзіцца ў 100 кіламетрах ад Бруселя, да 30 верасня ператварыўся ў вялізную выставачную залу, бо акрамя Палаца муніцыпалітэта, работы, якія прадстаўлены на выставу (усяго 500 твораў) выстаўлены таксама ў іншых залах і ва ўсіх дзеючых храмах. Кожнай краіне — у Трыенале 350 мастакоў прадстаўляюць 13 краін — выдзелена асобная зала. Хаця мастацтва беларускага габелена не такое ўжо старажытнае ў параўнанні з французскім ці бельгійскім, узровень работ дастаткова высокі і прымаюць беларускіх майстроў добра. Сярод удзельнікаў такія ўжо вядомыя мастачкі, як В.Грыдзіна, З.Пілюзіна, В.Крывашэева, З.Літвінава, і маладыя — Э.Малішэўская, М.Галубцова.

Г.Гаркуноў, старшыня секцыі тэкстылю Саюза мастакоў Беларусі, які пабываў на адкрыцці выставы «Іншая Еўропа», як адзін з яе ўдзельнікаў, сведчыць: «Адносіны да нас вельмі добразычлівыя — цікавяцца Беларуссю, нашым габеленам... Увогуле ў іх там адносіны да мастацтва значна больш сур'ёзныя, чым у нас. Выстава ўжо сабрала значную прэсу. Да яе адкрыцця выйшаў цудоўны каталог. Работа Валянціны Крывашэевай «Восеньскі нацюрморт» выдадзена асобнай паштоўкай».

☐ АКТУАЛЬНО

### ОКРУГЛИЛИ

Соб. инф. «ДВ».

**«После изъятия из обращения денежных купюр образца 1961-1992 годов произошло округление цен, но сделано это по какой-то странной системе. Не могли бы вы дать подробные разъяснения?». С такими просьбами обращаются минчане в нашу редакцию.**

Из специального документа, утвержденного Департаментом цен при Госэкономплане Республики Беларусь, мы узнали, что порядок округления следующий.

До 1000 рублей округление идет до 5 или 10 рублей. Если цена заканчивается на цифру от 0 до 4, то она округляется до 0. Например, 132 рубля будет 130. Сумма, заканчивающаяся на цифру 5-7, округляется до 5. Например, 137 превращается в 135 рублей. А цифры выше 7 округляются до 10 (138 будет 140 рублей).

Сумма от 1 до 10 тысяч округляется до 0 или 10 рублей. Если последняя цифра меньше 5, то она превращается в 0, больше или ровно 5 — в 10. Например, 1004=1000, 1005=1010, 1016=1020, 2205=2210 и т.д.

Суммы свыше 10 тысяч округляются до 50 и 100. Цифры от 0 до 20 (включительно) округляются до нуля, 20-70 — до 50, свыше 70 — до 100. То есть 10120=10100, 11235=11250, 15080=15100.

## ЭНЕРГЕТЫКА

### НАША ЦЯПЛО Ў НАШЫХ РУКАХ

Беларусь жыве занадта марнатраўна, што датычыць цяпла і электраэнергіі. Да такога вываду прыйшлі ўдзельнікі праведзенага 28 ліпеня «круглага стала» на тэму «Развіццё энергазберажэння ў рэспубліцы». Яго арганізатары — Мінскі энергетычны цэнтр Еўрапейскага супольніцтва і прадстаўніцтва ААН у Беларусі — запрасілі для сур'ёзнай размовы аб праблемах энергетыкі ў рэспубліцы спецыялістаў і экспертаў уплывовай міжнароднай арганізацыі па распаўсюджванню энергетычных тэхналогій, міжнароднага валютнага фонду, Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця.

Паводле ацэнак беларускіх і замежных спецыялістаў, 81 працэнт спажываемай у рэспубліцы электраэнергіі выпрацоўваецца на ўласных электрастанцыях, аднак толькі 10 працэнтаў неабходнага для гэтага паліва здабываецца на месцы. Гэтым Беларусь падобна на многія еўрапейскія краіны, але значна адрозніваецца ад іх па эфектыўнасці выкарыстання паліўна-энергетычных рэсурсаў. Страты пры іх расходаванні часам складаюць у прамысловасці — ад 10 да 60, у камунальна-бытавым сектары — ад 40 да 80 працэнтаў.

І хоць наша рэспубліка не з'яўляецца членам Еўрапейскага супольніцтва, яе геаграфічная прыналежнасць Еўропе не можа быць абыдзена ўвагай у вырашэнні агульных энергетычных праграм кантынента, было заяўлена ўдзельнікамі «круглага стала». Адным з такіх глабальных праектаў, на думку прысутных, з'яўляецца праграма «Цяпло», да якой з красавіка мінулага года падключана і Беларусь. Для гэтага ў Мінску быў адкрыты энергетычны цэнтр ЕС, рэгіянальнымі каардынатарамі якога ад камісіі Еўрапейскага супольніцтва стала французская фірма «Всеом», а яе мясцовым партнёрам — беларускі навукова-вытворчы і інфармацыйны цэнтр «Энергазберажэнне».

— Цяпер у рэспубліцы разгортваецца вялікая работа па энергазберажэнню ва ўсіх сферах дзейнасці, — гаворыць садырэктар Мінскага энергетычнага цэнтра Леанід Шыманец. — Для гэтага створаны Дзяржаўны камітэт па энергазберажэнню і энергетычнаму нагляду пры Савеце Міністраў Беларусі, фарміруецца заканадаўчая база, распрацоўваюцца стандарты і нарматывы энергаспажывання па відах прадукцыі, асвойваецца выпуск сродкаў уліку расходавання цяпла, вады, газу, а таксама энергазберагаючых устройстваў.

На жаль, і гэта прагучала на пасяджэнні «круглага стала», шырокае развіццё энергазберажэння стрымліваецца з-за агульнага крызісу эканомікі рэспублікі і мноства праблем у энергетычнай галіне, якія накапіліся за папярэднія гады. Было заяўлена, што Беларусі трэба смялей супрацоўнічаць з іншымі еўрапейскімі краінамі, ствараючы сумесныя прадпрыемствы, развіваючы вытворчасць абсталявання для выкарыстання нетрадыцыйных крыніц энергіі, новых тыпаў трубаправодаў, энергазберагаючых акон, рэгулюючай апаратуры ў сістэмах ацяплення і цеплазабеспячэння. А заходнія партнёры гатовы дапамагчы нам у навучанні і падрыхтоўцы спецыялістаў, перадачы перадавога вопыту, распрацоўцы заканадаўчай і эканамічнай базы энергазабеспячэння.

БЕЛІНФАРМ.

## КАЛЯНДАР

**Панядзелак, 2 жніўня.**

СОНЦА — 5.23 / 21.07.
Даўжыня дня — 15.44.
МЕСЯЦ — поўня 15.10,
захад 4.41 / усход 20.24.

ІМЯНІНЫ:
Сёння:
Праваслаўныя — Ілы Прарока, Аўрамія. Знаходжанне мошчаў прападобнамучаніка Афанасія Брэсцкага (1649 г).
Каталіцкія — МАЦІ БОЖАЕ ВАЛАДАРКІ АНЁЛАЎ; Аўзэбія, Густава.
Заўтра:
Праваслаўныя — Івана, Іезэкііля, Сямёна.
Каталіцкія — Лідзіі, Нікадзіма;

400-я ўгодкі кансакрацыі касцёла ў Нясвіжы.

НАРОДНЫ КАЛЯНДАР:
Ілля, Ілья — біблейскі прарок, вобраз якога цесна зліўся з паганскім богам Перуном.



Ілля ў вераваннях — распарадчык дажджоў, апякун земляробства, абаронца ад нячыстай сілы. Свята Іллі азначае канец лета, час жніва, пачатак пахаладання і дажджоў («Ілля нарабіў гнілля»). З гэтага ж часу забаранялі купацца.

## ГРОШЫ

### СПРАВА ПАЎЛАВА ЖЫВЕ І ПЕРАМАГАЕ

Як ужо вядома, з 26 ліпеня да 7 жніўня (уключна) установы Ашчаднага банка праводзяць свабодны аднаразовы абмен дзяржаўных казначэйскіх білетаў СССР, білетаў Дзяржаўнага банка СССР і банкнотаў Банка Расіі ўзору 1961 — 1992 гадоў. Грамадзянам Рэспублікі Беларусь і прыраўнаваным да іх асобам, якія маюць прапіску ці від на жыхарства, на суму да 50 тысяч рублёў уключна. Сума грашовых білетаў, якая перавышае 50 тысяч рублёў, залічваецца на безадзыўны дэпазітны ўклад тэрмінам на 6 месяцаў з налічэннем 60 працэнтаў гадавых. Пры гэтым афармленне ўкладу, які перавышае 250 тысяч рублёў, адбываецца толькі пры прад'яўленні дэкларацыі аб паходжанні ўказаных сум.

Абмен, незалежна ад сумы грашовых білетаў, адбываецца толькі адзін раз. Пры гэтым у пашпарце, у ваенным білеце або пасведчанні асобы вайскоўца працаўнікамі Ашчаднага банка робіцца адзнака аб зробленым абмене.

Па безадзыўным дэпазітным укладзе дадатковыя ўзносы і частковыя выдачы сум не адбываюцца. Уклад можна атрымаць у поўнай суме з належнымі працэнтамі толькі пасля сканчэння 6 месяцаў захавання.

Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у Ашчадным банку рэспублікі, толькі за першы дзень абмену расійскіх купюр на разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі — 26 ліпеня — грамадзяне абмянялі амаль два з паловай мільярды рублёў. На думку прадстаўнікоў праўлення Ашчаднага банка, максімальная сума абмену — 50 тысяч — выбрана правільна: толькі 1,7 працэнта ад сумы абмену было залічана на безадзыўны дэпазітны ўклад.

27 ліпеня Ашчадны банк пачаў праводзіць і зваротны абмен — разліковых білетаў Нацыянальнага банка на рублі выпуску 1993 года. Праўда, толькі тым, хто едзе ў камандзіроўкі (па прад'яўленні дакументаў у памеры сутачных) і ў адпачынак (пасля прад'яўлення копіі загаду, пуцёвак ці білетаў — да 50 тысяч). Абмежаванне ў суме абмену апраўдваецца тым, што зараз у Беларусі не хапае расійскіх банкнот узору 1993 года. Патрэбна, маўляў, проста пачакаць, калі з Расіі паступіць «падмацаванне».

Па звестках БелаПАН, у цяперашні час Ашчадны банк Рэспублікі Беларусь рыхтуе пагадненне з Ашчадным банкам Расіі аб узаемных разліках з прымяненнем чэкаў. Калі гэта пагадненне будзе падпісана, то выязджаючым беларусам не давядзецца больш мяняць расійскія грошы.

Ганна АЛЕГАВА,
БелаПАН.

## СТИХИЯ



### ПАВОДОК НА ГОМЕЛЬЩИНЕ

БОЛЬШАЯ ВОДА принесла большую беду. Она пришла на Гомельщину, по мнению специалистов, из Закарпатья. Обильные дожди, выпадающие там и у нас в Беларуси, подняли уровень воды в Припяти на 4 метра 15 см. 29 июля река вышла из берегов и затопила многие приусадебные участки жителей и колхозные поля Житковичского, Лельчицкого, Петриковского и Наровлянского районов. Во многих местах вода разрушила дамбы, размыла мосты и их укрепления.

Созданная комиссия по чрезвычайным происшествиям, возглавил которую заместитель председателя Совета Министров Республики Беларусь Александр Бокач, держит ситуацию под контролем. Но удается это с трудом, ибо уровень воды не падает, а наоборот, поднимается. Один день работы техники по борьбе с паводком обходится только в Житковичском районе в 5 миллионов рублей. Животным, которые теперь находятся на стойловом содержании, требуется на корм зеленая масса, добывается же она с трудом из-за большой воды.

В пострадавших районах обследовано каждое подворье с целью определения ущерба, чтобы потом уточнить размер предоставляемой государством помощи. Какова она будет — пока трудно судить, но одно ясно — бедствие обойдется в крупную сумму.

Сергей ХОЛОДИЛИН, корр. БЕЛИНФОРМа.

**НА СНИМКАХ:** *большая вода в потерпевшие районы Гомельщины принесла большую беду: жители деревни Березники добираются до дому на лодках.*

Фото автора.



## СТАТЫСТЫКА

### ЯКІ ЗАРОБАК?

Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь паведаміў, што сярэднямесячная заработная плата рабочых і служачых у студзені-чэрвені 1993 года склала 23867 рублёў і павялічылася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 9,2 раза. У чэрвені яна склала 39399 рублёў (у маі 28074 рублі).

## СПОРТ

### ГАБРИЕЛЯН И ЕГО КОМАНДА

Вильям ОСТРИНСКИЙ.

В Марьиной Горке завершился республиканский турнир по русским шашкам. Первое место при равенстве очков разделили гроссмейстеры — Виталий Габриелян и рабочий ПО «Горизонт» Аркадий Плакхин. Интересно, что последующие призовые места с превышением мастерского норматива заняли сыновья В.Габриеляна — минские студенты Владислав и Вячеслав. А жена гроссмейстера Галина является мастером спорта по шашкам.

В свое время семья Габриелянов жила в Баку, а гроссмейстер 23 года выступал как армейский спортсмен. Однако в связи с трагическими событиями в Закавказье члены семьи переехали из Азербайджана к родным Галины — в Марьину Горку.

### ДАЕШЬ МИЛЛИОН!

Виктор ИЗОТОВ, «ДВ».

Вчера в столице России, Москве, стартовал международный турнир по хоккею, в котором принимают участие три команды — местные «Крылья Советов», «Одзи Сейси» из города Томакомай в Японии и «Тивали» из Минска. Победителя турнира ждет довольно-таки приличный денежный приз в размере одного миллиона рублей. Плюс к этому цветной телевизор японского производства.

К сожалению, белорусский клуб понес потери. И довольно ощутимые. Как стало известно «ДВ», защитник Игорь Матушкин подписал годичный контракт с известным шведским клубом «Брюнес» из Евле, а нападающие Виктор Карачун и Александр Цыплаков отправятся в одну из команд второго дивизиона первенства Чехии.

Так что, пока любителям хоккея нашей республики придется потерпеть, прежде чем они смогут увидеть своих любимцев «живьем». В августе, но это пока еще не окончательная информация, предполагается приезд в Минск хоккеистов киевского «Сокола» — одного из участников чемпионата Межнациональной хоккейной лиги.

P.S. «Тивали» — «Одзи Сейси» — 8:2.

## К СВЕДЕНИЮ

### РУБЛИ ЗА «ЗАЙЧИКИ»

**Список**

*учреждений Сберегательного банка Беларуси, которые производят обоснованный обмен расчетных билетов Национального банка на денежные билеты банка России (при их наличии).*

| Адрес в г. Минске | Номер отделения | Телефон для справок |
|---|---|---|
| 1. Московский р-н, Республиканская, 9 | 8388 | 20-66-93 |
| 2. Фрунзенский р-н, Танковая, 36, кор. 1 | 7693 | 26-63-02 |
| 3. Первомайский р-н, пр.Ф.Скорины, 55 | 8006 | 32-31-64 |
| 4. Советский р-н, Сурганова, 66 | 7459 | 32-48-55 |
| 5. Ленинский р-н, Физкультурная, 31 | 16 | 21-90-54 |
| 6. Октябрьский р-н, Корженевского, 10 | 7460 | 77-07-32 |
| 7. Центральный р-н, Куйбышева, 18 | 8295 | 33-90-10 |
| 8. Партизанский р-н, Чеботарева, 17 | 8257 | 30-42-11 |
| 9. Заводской р-н, Енисейская, 6 | 7692 | 43-33-44 |

Для справок обращаться в городское управление Сберегательного банка. Телефон: 27-00-76.

**ПРИМЕЧАНИЕ:**

Обоснованием для обмена являются:

**на командировочные расходы:** по предъявлении копии приказа на командировку и расчета на аванс в соответствии с действующими нормами;

**на отдых:** по предъявлении копии приказа на отпуск (либо путевки) и проездных билетов — в размере до 50 тыс. рублей;

**по семейным обстоятельствам:** при предъявлении телеграммы, подтверждающей экстренность выезда, — в размере до 50 тыс. рублей.

■ ГАРАДСКІЯ КЛОПАТЫ

# КАМАРОЎКА ЗАПРАШАЕ ПАКУПНІКОЎ І ПРАДАЎЦОЎ

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Камароўскі рынак у разгар сезона — карціна, вартая пэндзля мастака. Людскі натоўп пачынаецца ўжо ў падземным пераходзе пад плошчай Якуба Коласа, бліжэй да рынку ён павялічваецца, займае ўсю шырыню тратуара, віруе ля кіёскаў і латочкаў.

Ідучых літаральна дапытваюць шматлікія «валютныя» хлопцы, спадзеючыся выявіць жадаючых прадаць СКВ. У апошні час у іх рэпертуары з'явіліся змены: традыцыйныя «долары-марачкі» дапоўнілі «расійскія рублі». Да сцен ціснуцца рэдкія прадаўцы прамысловых тавараў, гандаль якімі тут з рук забаронены.

Бліжэй да рынку пачынаюць сустракацца гандляры дарамі лясоў, палёў, рэк і агародаў. Тавар прадаецца прама з зямлі вёдрамі, кучкамі, шклянкамі. Тут жа, на плошчы перад рынкам, разгарнулі гандаль з аўтамабіляў памідорамі і кавунамі госці з Поўдня. Крыху далей, на пятачку перад падземным пераходам, бабулі гандлююць гарэлкай, сарамліва хаваючы бутэлькі ў торбах.

Гудзе адкрыты рынак. На прылаўках можна знайсці ўсё, што расце ў нас, рэспубліках СНД і краінах далёкага замежжа ў гэтую пару, а таксама астатнія часы года.

Пасля таго, як з крытага рынку выдалілі гандляроў прамысловымі таварамі, ён здаецца больш прасторным. Мо таму, што не ўсе гандлёвыя рады занятыя? Цешаць вока кветкі — ружы, гваздзікі, калы. Аж зіхацяць на прылаўку памідоры, яблыкі, апельсіны. У мясных радах з напаўрассечанымі тушамі на круках нешматлюдна, быццам перавяліся ў горадзе аматары свежай шкваркі. І гэта зразумела — цана не кожнаму па кішэні. 3000 рублёў каштаваў у пачатку трэцяй дэкады ліпеня кілаграм свініны, 200 рублёў — маладой бульбы на гарнір, 500 — цыбуля, 400 — морква, 3000 — лімоны, 1500 — бананы, 700 рублёў — адна ружа. І гэта ў сярэдзіне сезона! Чаго ж чакаць далей? На жаль, калгасы, саўгасы, аграфірмы не могуць стварыць канкурэнцыю прыватным гандлярам і знізіць цэны, хоць і гандлюе іх тут нямала.

Аб тым, як ідуць справы на Камароўскім рынку, мы пытаемся ў яго дырэктара А.У.Ішчанкі. Анатоль Уладзіміравіч сказаў, што ў сярэднім штодзень гандлюе на рынку пяць-пяць з паловай тысяч прадаўцоў, і ёсць свабодныя месцы для гандлю, але няма жадаючых іх заняць. Магчыма, мэтазгодна было б дазволіць гандляваць у крытым рынку прадметамі народных промыслаў, рознымі мастацкімі вырабамі. Найлепшы выхад — калі гэтыя свабодныя рады зоймуць прадаўцы садавіны, агародніны, іншай сельгаспрадукцыі. Прычым, іх форма ўласнасці і адкуль яны прыедуць, дырэкцыю цікавіць менш за ўсё. Такі падыход можна зразумець, бо плата за энерганосьбіты, іншыя расходы рынку растуць, а цану за гандлёвае месца нельга падымаць вышэй нейкай мяжы. Выйсце — прыцягваць новых прадаўцоў, павялічваць іх колькасць.

Анатоль Уладзіміравіч пацвердзіў, што з выдаленнем з Камароўкі гандляроў рэчамі з рук на рынку стала больш спакойна. Спрыяла гэтаму таксама павелічэнне штату ў тутэйшым аддзяленні міліцыі.

Прасцей стала прыбіраць рынкавую тэрыторыю і сам рынак (усяго 4,5 гектара). Прыбіраюць 71 штатны супрацоўнік (раней гэта рабіў кааператыў пры рынку) у дзве змены. З тэхнікі рынак мае адну палівачна-мыечную машыну, а так, усё прыходзіцца рабіць мятлой.

Вялікіх нараканняў на чысціню на рынку няма ні ў наведвальнікаў, ні ў кантралюючых яе санітарных службаў. (Часам заўвагі бываюць, але тут жа прычыны іх ухіляюцца).

Смецця хапае, бо прывозімыя тавары маюць адходы, некандыцыю, якія выкідваюцца тут. Шмат нараканняў да наведвальнікаў, да культуры іх паводзін. Чамусьці ў суседнім ЦУМе ніхто не лузгае семкі, нікому не прыйдзе ў галаву кінуць там на падлогу лушпінне ад з'едзенага банана. Калі кожны з наведвальнікаў пакіне на падлозе толькі адну паперку ад цукеркі, то за дзень збяруцца два поўныя трактарныя прычэпы смецця.

Па панядзелках Камароўка не працуе — санітарны дзень. За гэты дзень праводзіцца дробны рамонт абсталявання, больш грунтоўная прыборка тэрыторый.

За якасцю прадаваемых тавараў сочыць незалежная ад рынку служба — лабараторыя ветэрынарна-санітарнай экспертызы. Без яе станоўчага заключэння аб якасці сельгаспрадукцыі нельга атрымаць месца для гандлю, вагі і г.д.

Прасцей стала з пад'ездам да Камароўкі і паркоўкай аўтамабіляў. З дваццатага ліпеня рынку перададзена частка аўтастаянкі па мясцоваму праезду паміж вул.Кульман і вул. В.Харужай.

Так што праблемы рынку, аб якіх шмат казалася вясной пры ліквідацыі «барахолкі» на Камароўцы, пакрыху вырашаюцца.

І купіць, і прадаць там тую ж агародніну зрабілася больш зручна.

■ ВКУСНАЯ ПРАКТИКА



Где только не трудились в дни летней производственной практики учащиеся Минского высшего профтехучилища железнодорожного транспорта! Строили различные объекты, были заняты на ремонтах, помогали в сельскохозяйственных работах.

Нынешняя практика, как шутят ребята, особенно вкусная. Они работают в совхозе «Русиновичи» под Минском, где созрел отличный урожай малины и черной смородины.

Ну как не попробовать!

**НА СНИМКАХ: на плантации; учащаяся Ира ЩЕБЕЛЕВА на плантации черной смородины.**

**Фото Виктора ТОЛОЧКО, БЕЛИНФОРМ.**



■ РЕСПУБЛИКА

## *Увеличен озимый сев*

Ориентир на расширение озимых посевных площадей взят в нынешнем году в хозяйствах республики.

1 миллион 318 тысяч гектаров — такова площадь, которую займут нынче продовольственная пшеница, ячмень, а также кормовые культуры с более высоким содержанием белка. Объясняется это тем, что в последние годы урожайность по перечисленным видам озимых культур выше, чем по аналогичным яровым.

## *Артист «ушел в народ». И не вернулся*

**Казусный случай произошел в Бресте во время гастролей Академического театра оперы и балета РБ.**

**Второй оперный спектакль «Дикая охота короля Стаха» прошел без участия одного из ведущих его солистов. Дело в том, что народный артист республики, как бы оправдывая свое звание, «ушел в народ». И так с ним «расслабился», что попал в милицию. Говорят, там его голос оценили по достоинству. На спектакле же «ходока в народ» пришлось заменить другим исполнителем.**

## *Пропавшие динарии не найдены*

Девятнадцать римских серебряных монет из найденного в Березовском районе нынешней весной клада так и не обнаружены.

Как и положено, находка из 408 монет была сдана в районный отдел внутренних дел, о чем был составлен соответствующий акт. Однако ученым Академии наук было передано лишь 389 из них. Искать пропажу к березовским сыщикам безрезультатно выезжал доктор исторических наук профессор Института истории АН РБ Л.Д.Поболь. По его мнению, «пропавшие» монеты имеют большую историческую и художественную ценность. Профессор не оставляет надежды найти «недостающие» динарии.

## *Будущее молодежи Гродненщины видится без коммунистического рая*

**«С какими политическими партиями и движениями вы могли бы связать свои надежды на будущее?» — такой вопрос был задан недавно 625 жителям Гродненщины в возрасте от 14 до 30 лет в ходе социологического исследования, приуроченного к готовящейся областной конференции «Молодежь в новых социально-экономических условиях».**

**После обработки анкет городским центром профориентации результаты оказались следующими: большинство респондентов (41,9 процента) высказались за Союз Молодежи Беларуси, на втором месте — Молодежное объединение христиан православной и католической веры (25,4 процента),третью позицию удерживает Союз фермеров Беларуси (19,2 процента). Далее следуют: БНФ (18,7 процента), Союз сельской молодежи (16 процентов), Объединенная демократическая партия (12,6 процента), Белорусская Социал-демократическая Громада (12,3), Совет колхозов (11,5), ЛКСМБ (8,8). И, наконец, на последнем месте — Партия коммунистов Беларуси.**

**С ней связывают свои надежды на будущее лишь 8,2 процента молодых людей.**

**Следует добавить, что в опросе приняло участие 81,6 процента городского населения.**

## *Червенщина — «могильник» МАЗа?*

Три свалки промышленных отходов Минского автомобильного завода появились в этом году в Червенском районе. Причем, все — в неприспособленных для подобных целей местах.

Теперь специалисты из областного и минского городского комитетов по экологии изучают материалы, связанные с загрязнением автозаводом территории района. Так, по их предварительным данным, только в январе этого года заводские машины сделали на Червенщину 200 рейсов с промышленными отходами, в том числе 16 — с остатками краски.

## *Институт городу — ну просто позарез!*

**Бобруйский горисполком поддержал инициативу Союза предпринимателей Беларуси открыть в городе уникальный вуз — институт делового администрирования и предпринимательства.**

**За предстоящий год новый вуз должен пройти период становления, а осенью 1994 года принять первых абитуриентов. О том, какое большое значение придают этой идее в городе, говорит то, что, возможно, создаваемый институт будет размещаться в здании самого горисполкома.**

*ПО СООБЩЕНИЯМ РИД.*

## *РАССКАЖУ О КОЛЛЕГАХ*

*«РАДИ НЕСКОЛЬКИХ СТРОЧЕК В ГАЗЕТЕ...»*

**Редко мы пишем о своих коллегах — журналистах. Но жизнь подсказывает: иногда надо.**

**Дефицит бензина коснулся и нашего брата. Оттого, уезжая в командировку на автомобиле, стараются использовать его сполна: прихватывают с собой и фотокорреспондента, и работника местного радио.**

**Так делают и в быховской районной газете «Маяк Приднепровья». И всякий раз, садясь в машину, поминают недобрым словом бывшего редактора: сам выкупил редакционный автомобиль, а журналистам оставил вот такой — грузовой вариант. Вот и ездят теперь журналисты вместо груза, меняясь по очереди. Неудобно, а что поделаешь: газету-то обеспечивать материалами надо.**

**НА СНИМКЕ: на очередное задание. Ехать в качестве «груза» сегодня придется фотокорреспонденту Валентину АНТОНОВУ, репортеру с 25-летним стажем.**

**Текст и фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БЕЛИНФОРМ.**

*ГЭТА НАДЗВЫЧАЙ ПАТРЭБНА КОЖНАМУ З НАС. АСАБЛІВА Ў ПАЖЫЛЫМ УЗРОСЦЕ*

# «ВАРУШЫЦЕ МАЗГАМІ!»

З узростам людзі пачынаюць апасацца нябачнай хваробы: зніжэння эфектыўнасці мазгавой дзейнасці. Але гэта боязь найчасцей беспадстаўная, сцвярджае нямецкі часопіс «Штэрн».

На працягу дзесяцігоддзяў біёлагі і псіхолагі, хімікі і неўролагі спрабуюць высветліць, якія існуюць шляхі для таго, каб процідзейнічаць страху старэння.Іх мэта - знайсці рэцэпты захавання эфектыўнасці нашага шэрага рэчыва.

А яго дзейнасць сапраўды вартая захаплення. 100 мільярдаў нервовых клетак, многія з якіх, у сваю чаргу, звязаны з больш чым 10 тысячамі іншых - гэта тая сіла, якая забяспечвае палёт чалавека на Месяц,ператварае ў пекла асяроддзе пражывання, прымушае развязваць войны і заключаць мір, пісаць кантаты і маляваць партрэт Моны Лізы. І не ў апошнюю чаргу гэта тое самае «рэчыва», з якога «складаюцца» сны і ўспаміны.

Без сноў жыццё было б сумнае, без памяці - жудаснае. Толькі здольнасць помніць дае чалавеку магчымасць жыць, а не марнець - прасці пражу думак, праводзіць аналогіі, набываць магчымасць творчасці.Без гэтай здольнасці мы не ведалі б, што стол - гэта стол: пры кожным позірку на прадмет мы павінны былі б «ідэнтыфікаваць» яго нанова. Мы не маглі б параўноўваць, вырашаць праблемы, у нас не было б ні інтэлекту, ні розуму.

Даследчыкі вызначаюць тры віды ўспамінаў. Доўгатэрміновая памяць захоўвае ўсё, што мы не хочам забываць працяглы час, у выніку атрымліваецца сапраўдны вінегрэт інфармацыі. У памяці захоўваецца як пах каўбасы, так і апошняя знявага, нанесеная вам, або першая страфа верша Гётэ «Вучань чарадзея». Канадскі псіхолаг Эндэл Талвінг, да таго ж, вызначае «эпізадычную» і «семантычную» доўгатэрміновую памяць. У «эпізадычнай» памяці фіксуюцца падзеі, у «семантычнай» - паняцці, лексіка.

У процілегласць гэтаму кароткатэрміновая памяць - гэта імгненны «накапляльнік» інфармацыі: напрыклад, вы помніце нумар тэлефона, толькі што прачытаны ў тэлефоннай кнізе, роўна столькі часу, колькі трэба, каб набраць гэты нумар. Гэтая памяць - секунд на 20.

І, нарэшце, трэці від - «сенсорная» памяць. Мы выкарыстоўваем яе, напрыклад, калі глядзім фільм: з 24 карцінак, якія паказваюць нам на працягу секунды, складваецца ўражанне звязнага дзеяння. Уласна кажучы, фільм спачатку ўзнікае ў нас у галаве.

З незлічоных камер захоўвання наша памяць павінна атрымаць патрэбны ўспамін. Таму маленькія клетачкі нашага шэрага рэчыва звязаны паміж сабой інфармацыйнай сеткай лепш, чым камп'ютэрнай.

Але тое, што жыве, мінае. На працягу многіх гадоў нас шакіраваў тэзіс, які абвяшчаў, што прыкладна з 25-гадовага ўзросту мозг пачынае штодзённа губляць да 100 тысяч нервовых клетак. Якая з гэтага рабілася высnова? Эфектыўнасць мазгавой дзейнасці асуджана на зніжэнне. Стэрэатып старэння зацвердзіўся ў масавай свядомасці. Здавалася, што з узростам мы ўсе асуджаны на забыўлівасць.

Даследчыкі дзейнасці мозгу да гэтай пары дакладна не ведаюць, як асобныя клеткі назапашваюць успаміны. Вядома толькі адно: думкі - прадукт узаемадзеяння 100 мільярдаў мазгавых клетак, кожная з якіх уяўляе сабой самастойную запамінальную будову. Перадача інфармацыі ажыццяўляецца пры дапамозе тысяч мікраскапічных «адросткаў» нервовых клетак.

У той жа час вядома, што з узростам верагоднасць зніжэння эфектыўнасці мазгавой дзейнасці ўзрастае. Калі ў 65 - 69-гадовых людзей гэта адбываецца ў 2-3 працэнтах выпадкаў, то ў 80-гадовых - у 20-30 працэнтах выпадкаў.

Але пры ўсім страху наконт гэтага ўсё ж забываюць адно: 90 працэнтаў усіх людзей могуць быць упэўненымі ў тым, што дасягнуць старэчага ўзросту, захаваўшы поўную яснасць розуму і нармальную памяць. З'яўленне ўсё новых і новых, больш вытанчаных і дакладных метадаў вымярэнняў і назіранняў істотна пацясніла і міф аб тым, што з 25-гадовага ўзросту штодзённа пачынаюць паміраць па 100 тысяч нервовых клетак.

«Важна не блытаць нармальнае і паталагічнае паслабленне памяці», - тлумачыць псіхіятр Джэром Іесавадж са Стэнфардскага універсітэта. 20-гадовы чалавек, згубіўшы ключы ад аўтамабіля, у лепшым выпадку чартыхнецца і забудзе пра гэтую дробязь праз дзень. Але той, каму за 50, магчыма, доўга будзе папракаць сябе - і зробіць памылку, западозрыўшы, што пачынаецца «страта памяці».Псіхолаг Марджоры Лахман з Амерыкі лічыць, што псіхалагічны настрой, які выражаецца ў такіх прыступах самаедства і наступным пачуцці прыгнечанасці, і з'яўляецца сапраўднай прычынай паслаблення эфектыўнасці мазгавой дзейнасці. Бо дэпрэсіі вядуць да паслаблення памяці.

Але ёсць шмат прычын, што пабуджаюць не рабіць з забыўлівасці асаблівай трагедыі.Так, трэба ведаць, што нават невялікі стрэс можа кароткачасова звесці на нішто самую выдатную памяць. Гэта можа пацвердзіць ледзь ці не ўсякі абітурыент, які здаваў экзамены. Акрамя таго, часовае «вызваленне» кладовак памяці ў мазгу вельмі карыснае.Прасцей кажучы, калі б памяць не валодала ўласцівасцю «падсоўваць» нам успаміны амаль выключна аб шчаслівых момантах нашага жыцця, сума нашых няўдач і правалаў аказала б фатальнае ўздзеянне на наша пачуццё ўласнай годнасці і ўпэўненасць у сабе.

Якія трагічныя вынікі можа мець здольнасць нічога не забываць, відаць на прыкладзе, апісаным рускім вучоным Аляксандрам Лурыя.Яго пацыент валодаў паталагічнай уласцівасцю ніколі нічога не забываць - ні карціны, ні імёны, ні словы, ні гукі, ні перажыванні. Яго мозг быў перапоўнены ўражаннямі. Таму бедалага быў практычна недзеяздольны: ён рабіў уражанне звар'яцелага і не мог ні чытаць, ні мысліць лагічна або абстрактна.

Лацінскае выказванне «ў здаровым целе здаровы дух» зусім не страціла актуальнасці. Псіхолагам, якія вывучаюць дзяцей, вядома, як фізічныя рухі малога цягнуць за сабой прагрэс у разумовым развіцці. І не толькі ў малых.

Наогул рухомасць - гэта чарадзейнае слова, якое дае ключ да падтрымання рабочай формы галаўнога мозгу. «Варушыць мазгамі» надзвычай карысна - няхай гэта рашэнне шахматных задач, галаваломак, красвордаў або абдумванне плана размяшчэння рэек для цацачнай чыгункі. І гэта тым важней, чым старэйшым становіцца чалавек.

«Пасля 70 гадоў старэнне азначае некаторыя страты ў хуткасці мыслення і ў яго дакладнасці, - гаворыць прафесар Пауль Бальтэс з Інстытута Макса Планка ў Берліне. - Але «трэці ўзрост» мае свае скрытыя рэзервы, аб якіх трэба ведаць і якія трэба актывізаваць». Для гэтага ён распрацаваў псіхалагічны метад, які можна абазначыць трыма словамі: адбор, аптымізацыя і кампенсацыя. Гэты прыём ён растлумачыў на прыкладзе кампазітара і піяніста Антона Рубінштэйна. Аднойчы яго спыталі, як яму ўдаецца, нягледзячы на паважаны ўзрост, так бліскуча іграць на раялі. Піяніст адказаў, што, папершае, ён трымае ў рэпертуары меншую колькасць твораў (адбор); па-другое, больш практыкуецца ў ігры (аптымізацыя); па-трэцяе, некаторыя творы грае крыху павольней, для таго каб цяжкія хуткія пасажы рабілі такое ж уражанне, як раней (кампенсацыя).

Вынікі даследавання берлінскіх спецыялістаў паказваюць, што ўяўленне аб непазбежнай разумовай дэградацыі ва ўзросце - гэта ўсяго толькі забабоны. Наогул мудрасць і нетаропкасць у часы культу маладосці і ап'янення хуткасцю - ці не новы гэта аспект у нашым сённяшнім жыцці?

Тыцыян закончыў свайго «Хрыста» ва ўзросце 96 гадоў. Вэрдзі напісаў «Фальстафа», калі яму было 80. Аляксандр фон Гумбальд у 89 гадоў апублікаваў апошні том свайго «Космасу». А як справы ідуць у вас? Чыёсці імя вылецела з галавы? Забылі патрэбны нумар тэлефона? Гэта прычына не для панікі, а для таго, каб пачаць трэніраваць памяць.

■ ПО СЛЕДАМ НАШИХ ВЫСТУПЛЕНИЙ

# СВЯТО МЕСТО ПУСТО НЕ БЫВАЕТ...

М.ВАЛЬКОВСКИЙ, «ДВ».

**В жаркий день кажется, что за стакан воды можно отдать все. Но утолить жажду летом для минчан становится все более недосягаемо. Демонтированы торговые автоматы по продаже газированной воды, а редкие киоски с квасом, газировкой и сетью назвать трудно. К тому же эта жидкая сеть понесла очередную утрату: 21–22 июля демонтированы и вывезены торговые киоски кооператива «Воды Лагидзе» по пр.Машерова, 9 и пр.Ф.Скорины, 23.(О судьбе этих киосков «ДВ» писал в № 100.) На месте одного из них установлен киоск по торговле сувенирами.**

**Так что, выходя из дома, скоро придется брать с собой флягу воды.**

■ УВАГА



## АХВЯРЫ ХУТКАСЦІ

Фота У.БАСЬКО.



■ ПРАБЛЕМА

## *ДВА НЯБОЖЧЫКІ НА АДЗІН СТОЛ*

Алег ЮШКЕВІЧ.

**Падае эканоміка і культура. Па закону шаляў усё вышэй узровень злачыннасці.**

**Адной з заложніц гэтага перакосу можа стаць наша медыцына.**

Мяркуйце самі. Заводы медпрэпаратаў рублёвай зоны даўно «пакутуюць» ад састарэлага абсталявання, недахопу сыравіны, новых тэхналогій. Не вырашаюць праблему забеспячэння лекамі і мізэрныя валютныя інвестыцыі на закупку іх за мяжой. Таму ў бальніцах часта даводзіцца карыстацца падручнымі сродкамі, што, зразумела, уплывае на кошт лячэння. Так, у сярэднім неабходна 30 тысяч рублёў, каб вылечыць чалавека толькі ад лёгкіх цялесных пашкоджанняў. Цяжкія абыходзяцца ў 2,7 раза даражэй!

З другога боку, колькасць пацярпеўшых ад гвалту пагражальна расце. Па словах начальніка Упраўлення аховы здароўя Мінгарвыканкама У.Л.Белякова ў 1991 годзе паміж жыццём і смерцю знаходзілася 378 мінчукоў — ахвяр злачыннасці, у 1992 — 490, а сёлетні год абяцае больш крывавы «ўраджай».

Хірургічныя стацыянары на 30 працэнтаў запоўнены пацыентамі са страсеннем мазгоў. І гэта, заўважце, улетку, калі «мазгавую атаку» не спішаш на слізкія сцяжынкі.

Больш праблематычна абараніць сваё жыццё ад агнястрэльнай зброі, што ў большасці «цячэ» да нас з гарачых кропак праз празрыстую ўсходнюю мяжу. Але небяспечны ў руках раз'юшанага чалавека і звычайны нож. Так, у мінулым годзе ад рэзаных ран у Мінску загінулі 82 чалавекі, 6 з іх самагубцы, і 8 пацярпелі ад асабістай неасцярожнасці. У згаданых выпадках 60-70 працэнтаў людзей загінула ў нецвярозым стане.

Загінуўшыя паступаюць на медэкспертызу і... ужо пачынаюць цясніць тых, хто памёр сваёй смерцю. Анатамічных плошчаў катастрафічна не хапае, даводзіцца класці па два нябожчыкі на адзін стол!

■ ТРАНСПАРТ

# ПАСАЖЫРЫ ЧАКАЮЦЬ АБНОЎКІ...

Падобна на тое, што ў хуткай будучыні звычайныя жоўтыя «Ікарусы» перастануць радаваць вока беларускага гараджаніна. Замест іх ён, магчыма, убачыць новенькія ЛІАЗы, а то і ўвогуле беларуска-германскія сродкі руху.

Куды ж дзенуцца венгерскія аўтобусы, якія сёння забяспечваюць 50 працэнтаў гарадскіх і 80 працэнтаў міжгародніх перавозак?

Справа ў тым, што сёння закупка «Ікарусаў» (якая, дарэчы, заўсёды ажыццяўлялася праз Маскву) значна цяжэйшая: у 1991 годзе рэспублікай было атрымана ўсяго 25 машын, а ў 1992 — 1993 гадах іх пастаўка спынена. Вось ужо тры гады Беларусь працуе на старым рухомым саставе, і, паводле прагнозаў спецыялістаў, да 1995 года ў нас не застанецца ніводнага «Ікаруса», які б не здзейсніў бы свой амартызацыйны прабег. Ужо сёння гранічна зношаныя і патрабуюць спісання 40 працэнтаў гэтых машын.

Увогуле, як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у Міністэрстве транспарту і камунікацый, становішча з транспартам у рэспубліцы азадачвае. Наяўная стратнасць практычна ўсіх відаў перавозак, а што датычыць перавозак аўтатранспартам, дык за пяць месяцаў бягучага года страты склалі на прыгарадных зносінах — 4 635,7 мільёна рублёў (з улікам датацыі — 196,1 мільёна рублёў), на міжгародніх — 507,8 мільёна рублёў. Таму і скарачаецца колькасць рэйсаў і маршрутаў, а аб'ём перавозак за мінулы год у параўнанні з 1990 годам зніжаны на 21,7 працэнта, прычым пасажыраабарот зменшыўся на 37,5 працэнта.

Што ж тычыцца развіцця нацыянальнага машынабудавання, то яно вядзецца, але...

Па словах Валянціна Дзянісевіча, начальніка ўпраўлення навукі, тэхнікі і інвестыцый Міністэрства транспарту і камунікацый, аўтобусы, якія выпускаюцца Беларуссю сумесна з германскай фірмай «Неаплан», з'яўляюцца надта дарагімі (гарадскі аўтобус каштуе каля 300 тысяч нямецкіх марак, міжгародні — каля 400 тысяч марак), і асноўная іх маса ідзе на экспарт.

Для забеспячэння нармальнай працы пасажырскага аўтатранспарта і недапушчэння зрываў у яго працы распрацаваны праект Дзяржаўнай праграмы развіцця пасажырскага аўтатранспарта, які будзе заслуханы ў верасні гэтага года Саўмінам Рэспублікі Беларусь. Разам з іншымі важнымі пунктамі ў праекце прадугледжана стварэнне аўтобусназборачнай вытворчасці на Лідскім аўтазаводзе, што дазволіць да 1996 года выйсці на выпуск 500-1000 машын у год. Аднак ЛІАЗы змяшчальнасцю каля 120 чалавек не змогуць забяспечваць буйныя гарады з іх магутным пасажырапатокам, таму паўстае праблема стварэння сучленёных аўтобусаў, якія, відаць, будуць стварацца па спецыяльнай тэхналогіі на Гомельскім аўтарамонтным заводзе.

Таксама праектам прадугледжваецца заканчэнне будаўніцтва буйнейшага аўтобуснага парка ў Наваполацку, і, што ўяўляецца не менш важным, распрацоўка і прыняцце закона аб транспарце ў Рэспубліцы Беларусь.

**Аляксей ЛЯВІЦІН, БелаПАН.**

